Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 20 460.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Пятніца, 19 чэрвеня 1998 г. № 65 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## На Чарнобыльскай АЭС непаладкі

**У сераду быў тэрмінова спынены трэці энергаблок Чарнобыльскай АЭС.**

Пазапланавы рамонт выкліканы працёкам вады на адным з дапаможных трубаправодаў турбіннай установкі і парушэннем у працы аднаго з вузлоў электрагенератара. Адміністрацыя ЧАЭС сцвярджае, што парушэнні не прывялі да змянення радыяцыйнай абстаноўкі на станцыі і вакол яе. Рамонт энергаблока плануецца завяршыць 22 чэрвеня.

*БелаПАН — УНІАН*

## «Газпром» загадаў зацягнуць паясы

**Расійскі газавы канцэрн «Газпром» прапанаваў Беларусі знізіць спажыванне прыроднага газу на 2 млн. кубаметраў у суткі.**

У нармальным рэжыме ў Беларусь з Расіі ў суткі паступала 32—33 млн. кубаметраў прыроднага газу, што цалкам забяспечвала патрэбы эканомікі. Аднак, як мы ўжо паведамлялі ў мінулым нумары, «Газпром» прыслаў беларускаму ўраду тэлеграму, што з 15 чэрвеня скарачае пастаўкі, бо доўг Беларусі ў памеры 240 млн. доляраў ЗША не пагашаецца. У выніку перамоваў віцэ-прэм'ера Валерыя Кокарава з кіраўніцтвам «Газпрома», якія прайшлі 16 чэрвеня, праблема часткова ўрэгуляваная, аднак расійскі газавы канцэрн катэгарычна настойвае на змяншэнні паставак.

*БелаПАН*

## Палітычны прытулак плюс пасведчанне студэнта

**18-гадовы Ясь Абадоўскі атрымаў палітычны прытулак у Польшчы. Варшава прыняла рашэнне хутка.**

Нашая газета пісала ўжо, што напачатку траўня Я.Абадоўскі звярнуўся да польскіх уладаў з просьбай аб прытулку. Ён сцвярджае, што ў Магілёве ўлады праследавалі яго за палітычныя перакананні і як актывіст Маладога Фронту ён быў выключаны з машынабудаўнічага інстытута.

Цяпер Ясь вучыць польскую мову і рыхтуецца да вучобы ў Беластоцкім політэхнічным універсітэце, куды ён ужо залічаны. Малады ўцякач выбраў спецыяльнасць «прамысловая экалогія». Ён упэўнены, што абавязкова вернецца дамоў і ягоная прафесія вельмі спатрэбіцца Беларусі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Казацкі з'езд

**20 чэрвеня ў Мінску адбудзецца ўстаноўчы з'езд Усебеларускага аб'яднанага казацтва.**

Яго пасланцы збяруцца пад інтрыгуючым лозунгам: «Слаўяне! Узновім казацтва на Белай Русі!» На з'езд прыбудуць атаманы расійскіх казацкіх фармаванняў. Па словах старшыні аргкамітэта Яркові́ча, Расія ўважліва «адсочвае казацкі працэс на Беларусі».

**Наталля ВАЛАКІДА**





## Галоўны алімпіец стаў пісьменнікам

*Свае кнігі Рыгоравіч чамусьці выдае выключна на замежных мовах*

Прэзідэнт Лукашэнка напісаў кнігу, прэзентацыя якой прызначаная на 25 чэрвеня на эканамічным форуме ў Кран-Мантана. Пра гэта паведаміў на брыфінгу намеснік міністра замежных справаў Мікалай Бузо.

Беларуская амбасада ў Швейцарыі цяпер актыўна займаецца падрыхтоўкай прэзентацыі, на якую прыедзе сам аўтар.

Як паведамілі нам у міністэрстве замежных справаў, прэзідэнцкая кніга «Беларусь заўтра» выйшла на англійскай мове. Яе тыраж і кошт пакуль трымаецца ў сакрэце. Па словах чыноўнікаў МЗС, новы твор Лукашэнкі ўяўляе сабой збор ягоных «выдающихся» прамоў рознай тэматыкі. Супрацоўнікі МЗС кажуць, што кніга будзе «более весомой и приличной», чымсьці кніга прэзідэнта Казахстана Назарбаева. Стыль, мова і фотаздымкі, а таксама дызайн зборніка «Беларусь заўтра» будуць мець еўрапейскі стандарт. У МЗС абяцаюць, што набыць твор Рыгоравіча можна будзе і ў нашых крамах.

Нагадаем, што літаратурныя здольнасці Лукашэнкі ўжо ацэненыя па заслугах. Ён з'яўляецца лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Шолахава. Гэтую ўзнагароду, акрамя Рыгоравіча, атрымалі лідэр КПРФ Генадзь Зюганаў, кубінец Фідэль Кастра і Радаван Караджыч, які хаваецца ад міжнароднага суда.

Першую сваю кнігу «Рэспубліка Беларусь: шляхі ў будучыню» Лукашэнка напісаў на нямецкай мове. Яе надрукавалі ў ФРГ пірацкім чынам без выходных дадзеных. Ніводная кнігарня за мяжою не ўзялася яе прадаваць. Грошы аказаліся выкінутымі на вецер. Ніхто, акрамя вузкіх спецыялістаў, гэтым творам не зацікавіўся. Будзем спадзявацца, што англамоўны шэдэўр чакае лепшы лёс.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Аблогу Драздоў паслы вытрымалі

*Але ці вытрымаюць яны «нязручнасці быту», якія абяцаюць ім беларускія ўлады?*

Хісткім кампрамісам завяршыўся канфлікт вакол рэзідэнцыяў замежных паслоў у Драздах. Сутыкнуўшыся з упартым нежаданнем амбасадараў паддавацца ўльтыматуму і з'язджаць са сваіх рэзідэнцыяў, беларуская ўлады вымушаныя былі адступіць. У сераду міністр замежных справаў Іван Антановіч запрасіў да сябе паслоў і паведаміў, што яны могуць застацца ў Драздах. У той жа час міністр заявіў, што рамонт інжынерных камунікацыяў у Драздах усё ж пачнецца і могуць быць пэўныя нязручнасці для дыпламатаў. У прыватнасці, варта чакаць часовых адключэнняў вады і святла. *«Хто хоча мірыцца з гэтымі нязручнасцямі, хай мірыцца, а хто захоча жыць больш камфортна — будзе шукаць сабе іншае жыллё»,* — заяўляюць з МЗС.

Новыя праблемы ў дыпламатаў узнікнуць і ў сувязі з тым, што ўвесь комплекс Драздоў абвешчаны «рэзідэнцыяй прэзідэнта». Цяпер атрымліваецца, што паслы фактычна будуць гасцямі Рыгоравіча, а ў гасцях звычайна падпарадкоўваюцца парадкам гаспадароў. Амбасадараў ужо папярэдзілі, што іх чакае новы прапускны рэжым у Драздах: спецыяльная прапускная сістэма і дадатковыя меры бяспекі.



*На здымку: жонка амерыканскага пасла Эн Спекхард прагульваецца з сабакам у Драздах.*

Дыпламаты нібыта засталіся задаволеныя кампрамісам, але асаблівага захаплення сваім новым статусам «гасцей прэзідэнта» не выказалі. Першы сакратар пасольства ЗША Дыяна Максі ў гутарцы са мной зазначыла: *«Незразумела, што гэта за рамонт, колькі на самой справе ён працягнецца і чаго будзе тычыцца? Да таго ж, што азначае новы статус тэрыторыі Драздоў? Ці зможам мы запрашаць да сябе гасцей і самастойна вырашаць іншыя праблемы?»*

Дарэчы, у сераду на ўездзе ў Драздзы з'явілася шыльда: «Рэзідэнцыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». На наш погляд, такую шыльду даўно трэба павесіць на ўездзе ў РБ.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*СНІД*

## Пяройдзены 2-тысячны рубеж

**Колькасць заражаных ВІЧ-інфекцыяй перасягнула ў Беларусі двухтысячную рысу.**

На сённяшні дзень у нашай краіне афіцыйна зарэгістравана 2.035 хворых на СНІД. У Рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІД сітуацыю характарызуюць як «вельмі трывожную», бо рэальная колькасць ВІЧ-інфіцыраваных звычайна ў 10-12 разоў пераўзыходзіць афіцыйную статыстыку. Больш за 80 працэнтаў ВІЧ-інфіцыраваных у Беларусі складае моладзь ва ўзросце 15-29 гадоў. Большасць заражаных — наркаманы. Міжнародная праграма ААН-СНІД бліжэйшым часам прафінансуе адкрыццё ў Мінску трох пунктаў па абмене шпрыцаў для наркаманаў. Першы плануецца адчыніць ужо гэтым летам у раёне Камароўскага рынку.

**Наталля ВАЛАКІДА**

## Сталічны крымінал

*Кожны дзень у Мінску рэгіструецца ў сярэднім 56 злачынстваў*

Прычым, паводле інфармацыі Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама, кожнае другое злачынства, зарэгістраванае з пачатку гэтага года, належыць да катэгорыі цяжкіх. Асабліва небяспечная крымінальная сітуацыя ў Фрунзенскім, Цэнтральным і Заводскім раёнах. Міліцыі ўдаецца раскрыць тры злачынствы з чатырох (73%).

Трывогу выклікаюць крыміногенныя працэсы ў падлеткавым асяроддзі. Сёлета непаўналетнія ўчынілі 766 злачынстваў, сярод якіх адно забойства, два згвалтаванні, 8 цяжкіх цялесных пашкоджанняў, 37 разбойных нападаў, 76 грабяжоў, 80 злосных хуліганстваў, 425 крадзяжоў маёмасці.

*БелаПАН*

## На працу заманьваюць абедам

**У калгасе «Дружба» Мазырскага раёна ўпершыню за многія гады працоўны люд перастаў спазняцца на работу. Чаму? Бо хочуць есці.**

Тут вынайшлі арыгінальны метад павышэння працоўнай дысцыпліны: калі калгаснік прыходзіць на працу своечасова, яго кормяць абедам бясплатна. Калі ж спазняецца — плаціць за абед са сваёй кішэні. Калгаснікі выршылі, што лепш раней прачнуцца і своечасова прыйсці на брыгадны двор, чым сядзець галодным.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## АБСЕ не прызнае. Беларусь упіраецца

**Праблема легітымнасці нацыянальнага сходу Беларусі была ў цэнтры дыскусіі сумеснага паседжання Бюро Парламенцкай асамблеі АБСЕ і Міжпарламенцкай асамблеі СНД, якое прайшло 16 чэрвеня ў Санкт-Пецярбургу.**

Прадстаўнікі АБСЕ ў чарговы раз заявілі, што для аднаўлення членства беларускіх дэпутатаў у Парламенцкай асамблеі АБСЕ неабходна правесці ў Беларусі парламенцкія выбары ў адпаведнасці з дэмакратычнымі стандартамі. Беларускі бок лічыць падобныя патрабаванні непрымальнымі. У выніку дыскусіі бакі засталіся пры сваім. Адзіны вынік сумеснага паседжання Савета МПА і Бюро ПА АБСЕ — прыняцце заявы, у якой бакі выказалі імкненне да супрацоўніцтва і развіцця ўзаемных кантактаў.

*БелаПАН*

## КДБ запрашае шпіёнаў у госці

**Газета «Гродзенская праўда» з падачы КДБ апублікавала матэрыял пра няўдалага шпіёна, жыхара Гродна, які нібыта прыйшоў з павіннай і расказаў, як яго завербавалі палякі.**

У сваім каментарыі чэкісты гарантуюць чытачам абласной газеты, што кожнаму, хто своечасова прыйдзе ў КДБ, каб пакаяцца ў «измене Родине», грахі будуць дараваныя. Цяпер таварышы маёры чакаюць званкоў. Яны патлумачылі патэнцыяльным шпіёнам, што *«избавиться от чувства страха, опасений разоблачения помогут сотрудники контрразведки, куда можно круглосуточно и абсолютно конфиденциально обратиться по следующему номеру...»*. Цікава, наколькі актыўна адгукнуцца на заманлівую прапанову агенты дэфензівы Масара, ЦРУ і іншых замежных спецслужбаў, якіх, калі верыць некаторым органам друку, развялося ў нас, прабачце, як «сабак нярэзаных».

**Святлана ЖУК**

# Два сцэнарыі ад МВФ

## *Міжнародны валютны фонд дае прагноз*

Спецыялісты Міжнароднага валютнага фонду зрабілі прагноз развіцця беларускай эканомікі на некалькі гадоў наперад. Гэта стала адным з вынікаў іх нядаўняга візіту ў Беларусь.

Эксперты фонду разглядалі два варыянты развіцця падзеяў. Першы — беларускі ўрад працягне сучасную эканамічную палітыку. Другі — менш верагодны — улады пойдуць па шляху рэфармавання эканомікі.

### Пастка

Першы сцэнарый прадугледжвае, што з 1998 г. па 2003 г. беларускі ўрад праводзіць эканамічную палітыку, якой ён прытрымліваўся апошнія гады. Нацыянальны банк фінансуе за кошт друкарскага станка сельскагаспадарчыя, жыллёвыя і іншыя патрэбы. Адміністрацыйны кантроль за цэнамі і розніца паміж рэальным і афіцыйным курсам долара захоўваюцца. Ніякай істотнай прыватызацыі і пераўтварэнняў на прадпрыемствах. Вынік такога сцэнарыю — не самы лепшы.

На думку экспертаў МВФ, кантроль над цэнамі можа абмежаваць інфляцыю лічбай у 65% гадавых у 1998 годзе. Але далей ён непазбежна будзе павялічвацца: 80% — у 1999 годзе, 120% — у 2003 г. А гэта прывядзе да дэфіцыту тавараў і пагаршэння фінансавага стану прадпрыемстваў. У выніку — зніжэнне ўзроўню жыцця, але рост курсу долара.

У 1998 г. эканамічны рост яшчэ можа скласці 7% — перш за ўсё дзякуючы попыту на беларускія тавары ў Расіі. Але ўжо ў наступным годзе рост, па падліках экспертаў, скароціцца да 3%, а напачатку новага стагоддзя пачнецца спад. Канкурэнтаздольнасць беларускіх тавараў на расійскім рынку ў адсутнасці рэформаў на прадпрыемствах, прыватызацыі, інвестыцыяў — будзе хутка падаць, а экспарт будзе паступова скарачацца. Адпаведна беларусы застануцца і без імпартных тавараў, не будзе хапаць валюты на імпарт.

### Устойлівы рост

Паводле «рэфарматарскага» сцэнарыя, урад павінен спыніць друкарскі станок і фінансаваць развіццё эканомікі толькі за кошт грошай, якія рэальна ёсць у банках. Неабходна таксама адпусціць курс беларускага рубля і цэнаўтварэнне, паскорыць рэформу прадпрыемстваў і прыватызацыю.

У гэтым выпадку ў 1999 годзе эканамічнага росту не будзе ніякага. Але ўжо ў 2001 годзе пачнецца рэальны рост на 1%, які ў 2003 годзе дасягне 5%. У выніку развіццё эканомікі складзе за перыяд з 1997 па 2003 г. амаль 20%.

Інфляцыя скароціцца да 10% ў 2001 годзе. Гэта створыць умовы для ўмацавання беларускага рубля. Экспарт будзе расці ў сярэднім на 8% у год, што прывядзе да паступленняў валюты. Эканоміка выйдзе на шлях паступовага эканамічнага росту, а беларусы — на шлях павелічэння ўзроўню жыцця. Урад пры гэтым стварае сістэму канкрэтнай, адраснай сацыяльнай абароны, якой у нас сёння папросту няма.

Пры такім развіцці падзей МВФ меў бы магчымасць аказаць дапамогу Беларусі, бо ў гэтым выпадку краіна будзе ў стане разлічыцца са сваімі даўгамі.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Новы банк для адстаўнога банкіра

**Генадзь Алейнікаў, якога прэзідэнт Лукашэнка зняў з пасады кіраўніка Нацбанка вясной гэтага года, хутчэй за ўсё ўзначаліць новы дзяржаўны банк.**

Паводле планаў урада і Нацбанка, новы банк будзе мець пэўную долю замежнага капіталу, перш за ўсё з краінаў СНД. Прыярытэтамі дзейнасці стануць стымуляванне міжнародных гандлёвых аперацыяў, абслугоўванне знешняга гандлю, прыцягненне замежных інвестыцыяў у беларускую эканоміку. Такім чынам, гэта будзе нешта накшталт Знешэканамбанка (які, дарэчы, у свой час узначальваў Г.Алейнікаў), толькі з арыентацыяй на СНД.

Плануецца, што галоўны офіс новага банка размесціцца на вуліцы Савецкай, якраз насупраць Дома ўрада. Раней у гэтым будынку знаходзіўся банк «Дукат», які збанкрутаваў пасля чатырох гадоў працы.

**Алесь САДОЎСКІ**

## АЭС трэба выкрэсліць

**Беларускія эколагі і энергетыкі, якія ўваходзяць у Міжнародную акадэмію экалогіі (МАЭ), прапануюць зусім выключыць раздзел «Атамная энергетыка» з дзяржаўнай праграмы энергетычнай палітыкі.**

У спецыяльным дакуменце, накіраваным ва ўрад, яны прапануюць аб'явіць мараторый тэрмінам на 15-20 гадоў на будаўніцтва ў Беларусі АЭС і спыніць падрыхтоўку па яе стварэнні. У аналітычнай запісцы ўдзельнікаў красавіцкага семінара «Ядзерная энергетыка: эканамічныя, экалагічныя і сацыяльныя праблемы» паведамляецца, што з 1989 па 1996 год на расійскіх АЭС адбылося 14 аварый з уцечкай радыяцыі. Са студзеня 1992 года па лістапад 1994 года на АЭС Расіі і Ігналінскай АЭС (Літва) было 380 аварыйных сітуацый, прычым 5 — з выкідам радыеактыўных рэчываў. Прыводзяцца таксама два выпадкі аварыйнага спынення рэактараў — на АЭС у Швецыі і ЗША. Атамная энергетыка ненадзейная, і рызыкаваць нельга, сцвярджаюць навукоўцы.

*БелаПАН*

## Аўкцыён на нуль рублёў

**У Гродне другі раз запар на аўкцыёне камунальнай маёмасці не было прададзена ніводнага аб'екта і таргі ўвогуле не праводзіліся.**

Два тыдні назад на аналагічны аўкцыён паступіла ўсяго адна заяўка. На гэты раз было прапанавана ўсё тое самае: сховішча для цыбулі, недабудаваная тэлефонная станцыя і інш. Аднак гэтым разам не паступіла ўвогуле ніводнай заяўкі. І хоць у аўкцыяніста Віктара Шалкевіча (ён па сумяшчальніцтве яшчэ і беларускі бард) вельмі свярблі рукі, яму так і не ўдалося хоць раз стукнуць сваім малатком ды выгукнуць: прададзена!

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Міліцыю прызналі вінаватай

## *Мінскія дэпутаты ставілі пытанне аб адстаўцы шэфа міліцыі і пракурора горада*

Пракурор сталіцы Мікалай Купрыянаў і начальнік гарадской міліцыі Барыс Тарлецкі былі выкліканыя ў аўторак на сесію Мінскага гарадскога савета. Пытанне аб парушэннях законнасці падчас вулічных акцыяў на парадку дня сесіі дэпутаты паставілі першым.



*На здымку: віцэ-мэр Мінска Віктар Чыкін у кампаніі з міліцэйскімі чынамі на першамайскай дэманстрацыі, якая завяршылася арыштамі.*

Заканамернасць: усё высокае начальства, што выступала перад дэпутатамі, імкнулася ўсяляк абяліць міліцыянтаў, дый наогул «замяць» гэтую праблему і перакласці віну з міліцыі на дэманстрантаў. *«На жаль, пытанне падаецца выключна ў плоскасці неправамерных дзеянняў уладаў»*, — паскардзіўся пракурор Мінска. Да яго далучыўся і старшыня гарсавета Уладзімір Папкоўскі: дэманстранты, маўляў, даюць міліцыянтам столькі працы, што *«могуць быць і парушэнні»*. А мэр сталіцы Уладзімір Ярмошын сваю думку выказаў надта мудрагеліста: *«У спантанных, непрадказальных сітуацыях міліцыя прымае меры ў адпаведнасці з законам і пры гэтым учыняе парушэнні»*. Разумей як хочаш.

Міліцэйскае і пракурорскае начальства кіравалася арыгінальнай логікай. Атрымлівалася, што калі хтосьці нешта парушае, дык у адносінах да іх можна не зважаць на закон. Прычым гэтую пазіцыю адстойваюць людзі, якім выдаюць зарплату якраз за тое, каб яны абараням закон. Пазіцыю начальства падсумаваў дэпутат Мікола Бусюнк: *«Мы гаворым аб парушэннях правоў грамадзянаў — нам адказваюць, што грамадзяне самі парушаюць парадак. Выходзіць, міліцыя і далей будзе ўчыняць правапарушэнні?»*

Гэта тычыцца, дарэчы, не толькі правапарушэнняў у палітычнай сферы. Дэпутат Міхал Фрыдлянд зазначыў: *«На пабытавым узроўні гэта вельмі распаўсюджаная з'ява — чалавека забралі ў міліцыю, білі, здзекаваліся — і амаль ніхто не скардзіцца»*. А не скардзяцца па абсалютна яснай прычыне — бо не вераць, што дзяржаўная ўлада будзе абараняць іхнія правы.

Пракурор М.Купрыянаў адзначыў як пазітыўны факт, што сёлета ў пракуратуры значна менш скаргаў на правапарушэнні міліцыянтаў, чым летась. *«Там, дзе ёсць парушэнні з боку супрацоўнікаў правапарадку — ёсць і адпаведная рэакцыя на іх»*, — запэўніваў гарадскі пракурор. І дзе ж тая рэакцыя? Дэпутаты настойліва ставілі пытанне, ці ёсць сярод міліцыянтаў пакараныя за незаконныя дзеянні падчас акцыяў, і нарэшце атрымалі адказ ад Б.Тарлецкага: некалькіх міліцыянтаў пакаралі ў дысцыплінарным парадку толькі за тое, што *«дзеянні парушальнікаў грамадскага парадку не заўсёды былі задакументаваныя»*. Дык што ж тут пазітыўнага? У пракуратуру не звяртаюцца, бо такія звароты не маюць сэнсу.

Арышты ажыццяўляюць невядомыя ў цывільным адзенні, якія, карыстаючыся сваёй ананімнасцю, збіваюць і абражаюць затрыманых. *«Гэта не адзінкавыя выпадкі, а агульнапрынятая практыка»*, — заявіў прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага камітэта Алег Гулак, спасылаючыся на шматлікія звесткі незалежных свядкаў. — *Дзеянні супрацоўнікаў міліцыі накіраваныя ніяк не на абарону грамадскага парадку, а толькі на запалохванне людзей, здольных пратэставаць». «Гэта — рух да таталітарызму»*, — рэзюмаваў лідэр сацыял-дэмакратаў Мікола Статкевіч.

М.Бусюнк зрабіў пералік канкрэтных артыкулаў Крымінальнага кодэксу, якія парушылі міліцыянты: «незаконнае затрыманне або арышт», «даванне заведама непраўдзівых паказанняў», «перавышэнне ўлады пры абцяжарваючых абставінах», «прымус да давання паказанняў». Дэпутат падкрэсліў, што міліцыянты на вулічных акцыях часта нагадваюць крымінальную банду. *«І калі міліцэйскія начальнікі кажуць, што не могуць вызначыць супрацоўнікаў, якія ўчынялі правапарушэнні, — значыць, неабходна караць самых начальнікаў»*, — падкрэсліў Бусюнк.

У дакладзе дэпутата Алега Волчака, былі названыя самыя «антызаконныя» райаддзелы міліцыі — Савецкі, Цэнтральны і Маскоўскі. У праект рашэння гарсавета ўнеслі прапанову: зняць з работы начальнікаў гэтых райаддзелаў, а таксама галоўнага гарадскога міліцыянта Б.Тарлецкага. Аднак старшыня гарсавета У.Папкоўскі падтрымаў іншы праект, пазбаўлены ўсялякай канкрэтыкі і поўны агульных фразаў, што, натуральна, не задаволіла дэпутатаў. Кампрамісны варыянт не атрымаў ніводнага голасу «супраць»: Мінгарсавет прыняў рашэнне *«рэкамендаваць супрацоўнікам міліцыі выконваць свае абавязкі па падтрыманні парадку ў форменным адзенні»*, *«запатрабаваць ад пракуратуры горада павысіць эфектыўнасць нагляду за дзейнасцю міліцыі і судоў»*, прапанаваў гарвыканкаму запрашаць дэпутатаў на разгляд заявак на акцыі. Словам, пагаварылі — і задаволіліся.

Гарсавет вырашыў вярнуцца да гэтага пытання на восеньскай сесіі. Дэпутат Лявон Смоляр адзначыў, што *«ўва многіх краінах ёсць гэтак званыя Гайд-паркі»*, дзе людзі могуць выступаць са сваімі меркаваннямі без ніякіх заявак і дазволаў. *«На восеньскую сесію мы пастараемся прапанаваць канкрэтнае месца для такога «Гайд-парка» ў нашым горадзе»*, — паведаміў дэпутат. Між іншым, гэтую ідэю падтрымаў і генерал Тарлецкі — праўда, толькі ў тым плане, каб ва ўсіх іншых месцах Мінска вулічныя акцыі былі забароненыя.

У гэтым сумным абмеркаванні была, бадай, адзіная аптымістычная нотка. Дэпутат А.Волчак, былы следчы пракуратуры, упэўнены: *«Усё роўна прыйдзе час, калі мы прыцягнем да адказу людзей, якія цяпер знаходзяцца ля ўлады»*.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Салдат павінен быць асілкам

**У беларускім войску пачаўся эксперымент, накіраваны на павышэнне ўзроўню фізічнай падрыхтоўкі салдатаў.**

Як паведамілі ў міністэрстве абароны агенцтву БелаПАН, у войсках уведзены ў дзеянне новы парадак праверкі і ацэнкі фізічнай падрыхтоўкі ваеннаслужачых. У ім замацаваныя больш жорсткія нарматывы, і кантроль цяпер будзе праводзіцца не адзін раз у год, як гэта было раней, а значна часцей.

Усё гэта ў міністэрстве абароны называюць эксперыментам і кажуць, што ён працягнецца да 15 траўня 1999 года. З ініцыятывай яго правядзення выступіў Спартыўны камітэт Узброеных сіл: пасля вывучэння ўзроўню фізічнай падрыхтоўкі высветлілася, што многія салдаты слабыя, кволыя, нямоглыя. Цяпер ім усім давядзецца падкачаць свае мускулы.

**Магдалена НЕПАКАЙ**



# Улада пайшла ў народ «выбіваць» малако і мяса

Мода цяпер такая ў чынавенства: не праседжваць нагавіцы ў кабінетах, не пацець на паседжаннях, а — выязджаць бліжэй да прыроды, да простых людзей, паказваючы гэткім чынам «народнасць» улады. Пачалося, як помнім, з таго, што ў правінцыю пацягнула «руска-беларускі парламент». З'ездзілі дэпутаты ў Белавежскую пушчу, наведалі крэпасць-герой. Потым і ў Гомелі пабывалі.

Следам пачаў раз'язджаць кішэнны парламент нашага прэзідэнта. Ну, а сёння на раён выбіраецца Гродзенскі абласны савет. З Гродна да Ваўкавыска, куды сабраліся дэпутаты, сто кіламетраў. На іх трэба два аўтобусы. Але звычайна на цяперашніх сесіі ходзіць толькі палова дэпутатаў, таму, відаць, хопіць аднаго.

Так што і мы не лыкам шытыя, не лапцем капусту заядаем. Праўда, ёсць адно істотнае адрозненне. Пачынальнік моды «беларуска-рускі парламент» вырашае падкрэслена ідэалагічныя і глабальныя пытанні — накшталт гімна СССР ды пра мір-дружбу-інтэграцыю. Задача гродзенскіх дэпутатаў тым часам падкрэслена заземленая. Асноўнае пытанне выязной сесіі — аб ролі мясцовых органаў улады ў арганізацыі закупкі малака і мяса ў насельніцтва. Заўважце: наватне ў калгасах, дзе ўжо няма чаго купляць, а ў падсобных гаспадарках.

Мясцовыя органы ўлады — сельвыканкамы — нядаўна «праінструктаваў» кіраўнік абласной вертыкалі А.Дубко. Таварыш Дубко, які сам як даваў дабро на прызначэнне старшыняў сельвыканкамаў, цяпер б'е ў званы. Маўляў, трапляюць на гэтую пасаду звычайна тыя, хто заваліў справу ў іншым месцы. Не дзіва, што пры фінансавай праверцы ў 121 сельвыканкаме было выяўлена незаконных растратаў, недастач і крадзяжоў агулам на паўмільярда рублёў.

Папракнуўшы мясцовыя ўлады, Дубко шчыра сфармуляваў крэда вертыкальшчыкаў: «І дзеля таго, каб не апынуцца за бортам, не страціць сваю пасаду, трэба ўсім нам лепш працаваць». Працаваць, канечне, трэба ўсім, але мэта ў вертыкалі, аказваецца, своеасаблівая: галоўнае — застацца ў крэсле.

Вы спытаеце: а да чаго тут выязная сесія абласнога савета? А вось што: старшыня аблвыканкама зазначыў, што надзвычай важна павялічыць закупкі сельгаспрадукцыі ў насельніцтва. Маўляў, дзякуючы праведзенай «арганізатарскай і растлумачальнай рабоце» людзі пачалі здаваць дзяржаве больш малака, а мяса, наадварот, чамусьці менш. Дубко загадаў выправіць гэты перакос.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Парламентарии ФРГ о ситуации в Беларуси

## Депутаты Бундестага требуют освобождения арестованных членов свободно избранного Верховного Совета 13-го созыва

Делегация парламентской группы «Беларусь» Бундестага ФРГ во главе с Утой Цапф находилась с визитом в Минске с 10 по 12 июня с целью проведения ознакомительных бесед.

Делегация провела встречи с членами Верховного Совета 13-го созыва, законным, признаваемым Европейским Союзом парламентом, представителями «Хартии-97», председателем Белорусского Хельсинкского комитета, а также с другими представителями активных демократических групп.

*«Мы с озабоченностью наблюдаем развитие в Республике Беларусь»*, — заявила Ута Цапф по окончании бесед. *«Существует удивительно большое число инициатив и групп, вплоть до союза предпринимателей, члены которых выступают за демократизацию страны, в то время как правительство в большей степени ущемляет демократические права. К сожалению, ни политические партии, ни другие группировки не имеют доступа к средствам массовой информации, контролируемым государством. Свобода слова и средств массовой информации значительно ограничена, а те немногочисленные возможности для работы будут окончательно перекрыты имеющимся проектом поправок в закон о прессе»*, — отметила госпожа Цапф. От имени делегации она призвала президента А.Лукашенко восстановить свободу средств массовой информации.

По мнению депутатов Бундестага, будущее страны зависит от проведения свободных выборов, которые должны дать шанс всем политическим партиям. При этом присутствие международных наблюдателей является необходимым условием, подчеркнула госпожа Цапф. Первоначально требуется создание избирательного законодательства. Депутаты призвали как правительство, так и оппозицию с помощью миссии ОБСЕ прийти к компромиссу в вопросе проведения свободных выборов.

С особой озабоченностью депутаты Бундестага отреагировали на арест двух депутатов Верховного Совета Климова и Кудинова, из-за якобы экономических преступлений. Оппозиция подвергается давлению, сказала госпожа Цапф. Возникает атмосфера страха, которая должна запугать все оппозиционные группы. Члены парламентской группы «Беларусь» Бундестага ФРГ потребовали освобождения депутатов Климова и Кудинова.

*Пресс-релиз посольства ФРГ в Республике Беларусь*

ДАГЕРРОТИП

# И чтоб никаких «а-ля»!

**Семен БУКЧИН**

В московском журнале «Новый мир» (№№ 2–3 за нынешний год) опубликован роман Галины Щербаковой «Армия любовников». Эдакая модная ныне развязная «женская проза» со всякими «про мужиков» подробностями. В названии очередной главы фамилия очередного героя «Кулибин». А в ней следующая характеристика: *«Он ведь тоже человек, а не хвост собачий. Человек с выпирающим зубом и огрузневшими чреслами к тому времени весьма осыпался головкой и имел довольно противную привычку укладывать единственную подросшую прядь волос поперек колена головы. А-ля Лукашенко, что из Белоруссии. Нетоварность вида Кулибина бросалась в глаза сразу, а добротными шмотками еще больше подчеркивалась. Такая была казуистика»*.

Ну и далее в таком же недоброжелательном по отношению к герою духе... Добро бы вся эта женская неприязнь выплескивалась только на некоего выдуманного Кулибина. Художественный образ... Мадам писательница имеет право... Но зачем же эта самая мадам Щербакова сюда Лукашенко приплела? Да еще и уточнила — «что из Белоруссии». Это чтобы не сомневались, о каком именно Лукашенко речь идет?

Вот я и думаю: в свете уже принятых и еще готовящихся законов о защите чести и достоинства президента Беларуси будет предъявлен судебный иск журналу «Новый мир» и лично автору романа «Армия любовников» Галине Щербаковой или как-то обойдется?

По-моему, оскорбление налицо. Во-первых, привычка определенным образом укладывать единственную прядь волос названа *«противной»*. А на каком, собственно, основании? У нас, слава Богу, теперь свобода, и каждый волен делать со своими волосами что захочет. Кому противно укладывать поперек, а кому очень даже нравится! Так зачем же оскорблять человека?

И что это за выражение — *«колено головы»?* Колено — это колено, а голова — это голова. Азбука анатомии. А вот выражение «колено головы» может означать, что и головы-то нет, а вместо нее одно сплошное колено. Что это, в таком случае, если не оскорбление?

И, наконец, эта двусмысленность — *«весьма осыпался головкой»*. Ежели впрямую воспринимать, то получается «облысел». Ничего страшного. С кем не бывает? Но ведь возможен и второй, скрытый смысл. Осыпался головкой... Улавливаете? Конечно, авторша на суде будет утверждать, что выражение это относится к ее литературному герою, некоему Кулибину. Но бдительная прокуратура тут же укажет, что сразу же за этой фразой следует совершенно определенное «а-ля» с совершенно определенной, уже можно твердо утверждать, исторической фамилией. Следовательно, можно толковать, что и «осыпавшаяся головка» имеет совершенно конкретного адресата не только в «лысом», но и в скрытом оскорбительном смысле. Настолько оскорбительном, что я здесь и говорить об этом не желаю.

Одним словом, нам предстоит пережить новый расцвет филологической науки. Литературные кафедры университетов и соответствующие академические институты будут завалены экспертизами. «Вопросы языкознания» опять станут главными в нашем обществе.

Что же касается мадам Щербаковой, конечно, сегодня она гражданка иностранного государства... Но ведь ситуация меняется. Наши страны сближаются. И возможно, что очень скоро у нас будет общий президент. Тот самый, с «вредной привычкой». Поэтому я бы посоветовал писательнице Щербаковой для отдельного издания романа выправить соответствующим образом начало главы «Кулибин». У нас ведь государство строгое, за такое «а-ля», ежели верить новому законопроекту, можно и четыре года тюрьмы схлопотать.

Кстати, в свете тех же российско-белорусских объединительных перспектив стоит задуматься о своем ближайшем будущем и авторам программы «Куклы», процветающей — пока! — на канале НТВ. Там действует, мягко говоря, весьма несимпатичный персонаж с гнусавым голосом. Если старичку Ельцину и его ближайшему «дерьмократическому» окружению, возможно, и не обидно глазеть на самих себя в таком непрезентабельном виде, то в суверенной Беларуси имеются свои представления о чести и достоинстве больших начальников.

Есть, конечно, и другой выход из этой ситуации. Не принимать никаких особых законов и статей о защите чести и достоинства президента Беларуси. Не принимать и все! Пусть его честь и достоинство будут защищены теми же статьями закона, которые защищают честь и достоинство любого гражданина Беларуси! Поскольку он, хотя и президент, но, в общем-то, такой же, как и все, гражданин. Чиновник высокого ранга, нанятый налогоплательщиками для исполнения определенных обязанностей. Не более.

Пишу такое и сам понимаю, что скатываюсь на буржуазные позиции. Типичная западно-буржуазная идеологическая точка зрения. Наш президент ведь не чета какому-то Клинтону или Шираку, не говоря уже о Квасьневском... Там, на развращенном Западе, могут писать о президентах все, что угодно. Всякие «утергейты» или скандалы на личной почве выкручивают них устраивать. А у нас уважать обязан! Даже если не уважаешь. Трепет обязан испытывать! Даже если не хочется трепетать.

Из этого рабского, верноподданнического трепета и рождаются законопроекты, повергающие одновременно в смех и тяжелую тоску цивилизованный мир. Разве можно издавать законы об обязательном уважении и обязательной любви к «первому лицу»? И разве «зажим критики» не пропаганда «обязательной», можно сказать, насильственной любви?

Есть, конечно, у сочинителей этих законов и тайная мыслишка о себе. Ежели «первого» трогать нельзя, то вроде бы этот запрет должен распространяться и на «ближайших слуг», «преданное окружение вокруг трона»?

Мысль, в общем, правильная. Поэтому вслед за законом «О защите президента» предлагаю принять закон «О защите начальства вообще и в частности». И тут уж «первое лицо» распишет, кому и какая защита от собственного народа полагается.

Чтоб больше никаких ни «ляля», ни тем более «а-ля»...

# Товарищи, не искажайте

В некоторых белорусских государственных СМИ появилось недавно сообщение о том, якобы «в Чехии высоко оценивают действия А.Г.Лукашенко по решению конфликта вокруг Дроздов». Такую информацию распространило правительственное агентство БелТА.

По этому поводу посольство Чешской Республики заявило, что в данном сообщении был *«искажен смысл комментария чешского телевидения, касающегося ситуации в Дроздах»*. Руководитель чешской дипломатической миссии Алеш Фойтик подчеркнул, что *«посольство Чешской Республики относительно ситуации в Дроздах поддерживает протест своих коллег против выселения без их согласия, так как в этой ситуации белорусские власти нарушают принципы Венской конвенции 1961 года»*.

**Б.П.**

# Политические часы остановились в полночь

**Валерий КАРБАЛЕВИЧ,**
***кандидат исторических наук***

Майский соцопрос, проведенный лабораторией Андрея Вардомацкого «НОВАК», не дал каких-то очень уж неожиданных результатов, но высветил определенные моменты, которые несут в себе скрытую тенденцию к потенциальным изменениям.

Прежде всего, необходимо отметить, что 37,4% опрошенных считают экономическое положение Беларуси в мае изменившимся в худшую сторону. А 35,9% констатируют ухудшение материального положения своих семей. Это социологически значимые величины, особенно на фоне уверений официальной пропаганды о начавшемся хозяйственном подъеме, постепенном преодолении кризиса. Если нынешняя тенденция в экономике сохранится, то разрыв между реальным уровнем жизни и ее агитпроповским отражением может приобрести масштабы периода развитого социализма.

В этом смысле еще более разительная картина по Минску. Если по стране в целом количество граждан, считающих экономическое положение нормальным, примерно равно числу тех, кто видит его плохим, то в столице вторых больше, чем первых в 1,8 раза. Ухудшение материального положения семей в Минске в мае отметило на 13,6% больше респондентов, чем в целом по РБ.

Вряд ли в Минске люди живут хуже, чем в провинции. Любопытно, что экономическое положение своих семей как «хорошее» и «среднее» оценило 50,2% минчан, а положение в стране таким же видят лишь 34,3% жителей столицы. Этот парадокс объясняется несколько иными критериями и подходами к понятию «нормы». Несмотря на неблагоприятные условия, в Минске идет бурный процесс формирования среднего класса, у которого более высокие социальные притязания, чем у большинства населения. Главным видимым и ощутимым фактором ухудшения экономической ситуации в мае было обострение товарного дефицита. Видимо в столице, привыкшей за последние годы к относительному товарному изобилию, нехватка продуктов, сокращение ассортимента воспринимается более болезненно, чем в РБ в целом.

Несмотря на явственное осознание обострения экономического кризиса, большинство опрошенных расценивают политическую обстановку как спокойную. Более того, как ни странно, их число выросло по сравнению с апрелем на 7,2%. Месяц назад количество респондентов, оценивающих политическую ситуацию как благополучную и спокойную, было в 2 раза больше тех, кто рассматривал ее как плохую и очень плохую. В мае это соотношение возросло до 2,6 раза (64,4 против 25,1%). В Минске разрыв между этими оценками существенно меньше: 57,4 против 33,9%. В столице считают возможными массовые выступления против роста цен и падения уровня жизни в два раза больше опрошенных, чем в целом по Беларуси.

Несколько диссонируют с приведенными выше цифрами данные о потенциальных участниках акций протеста. В апреле не собирались в них участвовать 71,4%, а в мае — только 55,7%. Разница значительная.

Таким образом, в отличие от России у нас экономический кризис не только не трансформируется в политический, а возможно, наоборот, стабилизирует политическую систему. Это феномен общества, застрявшего в самом начале переходного периода. Рейтинги ничего существенно нового не выявили. Уверенное лидерство Лукашенко кажется незыблемым. Правда, в Минске традиционно его рейтинг меньше на 10-13%. Ухудшение экономического положения не слишком сказалось на популярности президента. Это подтверждает звучавшие ранее выводы о том, что рейтинг Лукашенко в значительной мере оторвался от социально-экономической ситуации в стране и держится в основном на его личной харизме. В таблице потенциальных кандидатов в президенты, как и раньше, второе и третье места занимают Пазьняк и Шушкевич, у которых пик политического потенциала остался далеко позади. Это самое яркое свидетельство того, что политическая ситуация у нас законсервировалась на уровне 1994 г. После президентских выборов политические часы как бы остановились. Любопытно отметить, что в Минске рейтинг Пазьняка ниже, чем в целом по Беларуси.

Удручает низкий рейтинг Карпенко. Ведь речь идет о политике, официально выдвинутом на роль лидера объединенной оппозиции. Это минус и для самого Геннадия Дмитриевича, и для политических сил, которые стоят за ним. Кто думает, что за три месяца предвыборной кампании можно радикально изменить ситуацию, тот глубоко ошибается.

Очень много неопределившихся — 44,4% (в Минске — 58,1%). Безнадежно низкий рейтинг оппонентов президента и огромное число неопределившихся граждан свидетельствует о том, что уже четыре года существует вакансия на место лидера протестного электората. В России на эту роль достаточно успешно претендуют несколько кандидатов. А у нас здесь полный вакуум.

При нынешнем уровне электоральной поддержки президента и с учетом того, что голоса неопределившихся переходят примерно пропорционально ко всем кандидатам, можно смело прогнозировать победу Лукашенко уже в первом туре президентских выборов. Это должны четко осознавать лидеры оппозиции, требующие приближения сроков выборов.

Ситуация с рейтингом партий примерно такая же, как и с рейтингом оппозиционных политиков: отсутствие очевидных лидеров, раздробление электоральной поддержки среди множества политических субъектов. Партии оказались выброшенными из политсистемы и находятся на периферии общественной жизни. В этой мутной воде, когда власти пытаются свести деятельность всех организаций к нулю, вполне закономерно, что на поверхности оказываются не реально действующие структуры, а партии с красивым именем. Если респонденты не слышали о деятельности политических организаций, то ничего не остается, как ориентироваться на название. Можно было бы провести эксперимент: в список партий, предложенный для опроса, поставить несуществующую партию с красивым названием (например, Партия социальной защиты трудящихся). Если две партии коммунистов в сумме набрали свои 10%, то удивил низкий рейтинг БНФ — всего 4,3%.Считалось, что электорат Фронта составляет также не менее 10%.

Среди государственных и общественных институтов не случайно на первом месте по доверию находится церковь. Важнейшим элементом системного кризиса, переживаемого нашим обществом, является кризис сознания. В условиях распада прежней системы самым трудным для населения является потеря мировоззренческих ориентиров, душевный дискомфорт от непонимания происходящего. Поэтому вполне понятно, что духовную опору люди стремятся найти в церкви.

В условиях перехода к информационному обществу вполне закономерно СМИ становятся одними из самых влиятельных общественных институтов. Несмотря на низкий профессиональный уровень, государственные средства массовой информации, благодаря своей монополии, твердо занимают 4—5 место. Неожиданностью мая стало то, что в Минске на третье место вышли негосударственные СМИ. Это закономерное следствие того разрыва между обострением экономических трудностей и парадно-помпезным стилем работы БТ и государственных газет.

А между тем в Минске институт президентства, который неотделим от личности самого президента, переместился в рейтинге доверия с третьего на четвертое место. Причем не доверяют главе государства больше, чем доверяют.

В заключение некоторые выводы. Социально-политическая ситуация в значительной мере законсервировалась. Отсутствие реформ затормозило экономическую и социальную структуризацию и дифференциацию общества. Вследствие этого не произошло политического самоопределения населения, что выражается в раздробленности и низком рейтинге партий, большом количестве респондентов, не определившихся в плане поддержки политических лидеров и партий.

Главным фактором, влияющим на все социально-политические процессы, выборы и предпочтения электората, становится ухудшение экономического положения.

***Материал подготовлен по результатам опроса общественного мнения, проведенного социологической лабораторией Андрея Вардамацкого «НОВАК». Репрезентативная выборка — 1.103 человека. Комментарий по результатам опроса подготовлен редакцией газеты НАВІНЫ без участия лаборатории. За интерпретацию цифрового материала лаборатория «НОВАК» ответственности не несет.***

**Если бы в ближайшее время состоялись новые выборы президента Республики Беларусь, кого бы вы поддержали в первую очередь?**
**А за какого потенциального кандидата в президенты вы ни в коем случае не стали бы голосовать?**

| | за | против |
|---|---|---|
| Лукашенко | 44,6 | 18,0 |
| Пазьняк | 3,1 | 17,0 |
| Шушкевич | 2,1 | 8,4 |
| Карпенко | 1,8 | 0,1 |
| Богданкевич | 1,3 | 1,1 |
| Кебич | 1,2 | 5,1 |
| Линг | 0,4 | 0,1 |
| Калякин | 0,2 | 0,2 |
| Шарецкий | 0,0 | 0,8 |
| Нет таких | 3,7 | 0,5 |
| Затрудняюсь ответить | 11,1 | 11,8 |
| Нет ответа | 29,6 | 35,5 |

**Если бы в ближайшее время состоялись выборы, за какую из перечисленных партий вы бы проголосовали? (отметить до 3-х партий)**

| партии | % |
|---|---|
| Женская партия «Надзея» (Полевикова) | 7,5 |
| Коммунистическая партия Беларуси (Чикин) | 5,5 |
| Партия коммунистов белорусская (Калякин) | 4,5 |
| Объединенная гражданская партия (Богданкевич) | 4,3 |
| Партия Белорусского Народного Фронта (Пазьняк) | 4,3 |
| Белорусская партия «Зеленый мир» (Громыко) | 3,1 |
| Республиканская партия труда и справедливости (Нетылькин) | 2,9 |
| Белорусская социал-демократическая партия «Народная Грамада» (Статкевич) | 2,8 |
| Белорусская партия труда (Бухвостов) | 1,8 |
| Славянский собор «Белая Русь» (Сергеев) | 1,4 |
| Белорусская крестьянская партия (Лугин) | 1,4 |
| Белорусская республиканская партия (Артишевский) | 0,5 |
| Другая | 2,5 |
| Не голосовал бы | 18,4 |
| Затрудняюсь ответить | 45,9 |

**Насколько вы доверяете государственным и общественным институтам и организациям?**

| | Данные по г. Минску | | | Данные по всей Беларуси | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | доверяю | не доверяю | затрудняюсь ответить | доверяю | не доверяю | затрудн. ответить |
| Церковь | 68,4 | 23,8 | 7,8 | 68,9 | 20,7 | 9,8 |
| Армия | 61,2 | 27,2 | 11,6 | 60,6 | 29,3 | 9,9 |
| Независимые СМИ | 50,1 | 35,2 | 14,6 | 40,3 | 43,0 | 16,7 |
| Президент | 43,4 | 47,7 | 8,9 | 56,9 | 32,5 | 10,5 |
| Государственные СМИ | 41,7 | 51,6 | 6,7 | 52,9 | 41,7 | 5,4 |
| Традиционные профсоюзы | 38,9 | 44,6 | 16,5 | 34,1 | 46,6 | 18,7 |
| Правосудие | 37,3 | 51,5 | 11,2 | 42,2 | 47,2 | 10,5 |
| Союз предпринимателей | 37,0 | 29,1 | 33,8 | 25,7 | 40,3 | 34,0 |
| Правительство Беларуси | 34,7 | 49,8 | 15,5 | 45,9 | 39,1 | 14,8 |
| Независимые профсоюзы | 34,2 | 28,9 | 36,9 | 23,0 | 25,9 | 45,8 |
| Национальный банк | 34,0 | 51,5 | 14,5 | 28,0 | 51,5 | 19,9 |
| Местные власти | 33,4 | 52,3 | 14,3 | 36,0 | 54,3 | 9,6 |
| Милиция | 27,0 | 64,9 | 8,1 | 35,2 | 59,0 | 5,7 |
| Нац.собрание (в целом) | 22,6 | 50,4 | 27,1 | 25,1 | 39,8 | 34,8 |
| Совет Республики | 22,5 | 46,6 | 30,9 | 20,3 | 39,4 | 39,8 |
| Палата представителей | 22,5 | 45,2 | 32,3 | 19,3 | 39,4 | 41,0 |

**Как бы вы оценили экономическое положение <u>Беларуси</u> в настоящий момент?**

| | % |
|---|---|
| Очень хорошее | 0,2 |
| Хорошее | 5,3 |
| Среднее | 41,9 |
| Плохое | 36,8 |
| Очень плохое | 10,9 |
| Затрудняюсь ответить | 4,0 |
| Нет ответа | 0,8 |

**Как бы вы оценили экономическое положение <u>вашей семьи</u> в настоящий момент?**

| | % |
|---|---|
| Очень хорошее | 0,1 |
| Хорошее | 6,9 |
| Среднее | 45,4 |
| Плохое | 38,4 |
| Очень плохое | 8,1 |
| Затрудняюсь ответить | 1,1 |
| Нет ответа | 0 |

**Как, по вашему мнению, изменилось состояние экономики <u>Беларуси</u> за май?**

| | % |
|---|---|
| Улучшилось | 3,8 |
| Осталось прежним | 45,6 |
| Ухудшилось | 37,4 |
| Затрудняюсь ответить | 11,9 |
| Нет ответа | 1,3 |

**Как, по вашему мнению, изменилось экономическое положение <u>вашей семьи</u> за май?**

| | % |
|---|---|
| Улучшилось | 3,6 |
| Осталось прежним | 57,9 |
| Ухудшилось | 35,9 |
| Затрудняюсь ответить | 2,5 |
| Нет ответа | 0,1 |

**Как вы думаете, насколько возможны сейчас в вашем городе (районе) массовые выступления против роста цен и падения уровня жизни?**

| | % |
|---|---|
| Вполне возможны | 17,6 |
| Маловероятны | 72,9 |
| Затрудняюсь ответить | 8,2 |
| Нет ответа | 1,3 |

**Если состоятся митинги, демонстрации против роста цен и падения уровня жизни, вы лично примете в них участие?**

| | % |
|---|---|
| Скорее всего да | 21,8 |
| Скорее всего нет | 55,7 |
| Затрудняюсь ответить | 16,5 |
| Нет ответа | 6,1 |

**Как бы вы оценили в целом политическую обстановку в Беларуси?**

| | % |
|---|---|
| Благополучная | 3,8 |
| Спокойная | 60,6 |
| Напряженная | 22,8 |
| Критическая, взрывоопасная | 2,3 |
| Затрудняюсь ответить | 8,6 |
| Нет ответа | 1,9 |

